*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 3 (440) 19 СТУДЗЕНЯ 2000 г.

## Дарагія сябры "Нашага слова"!

Сёння мы паведамляем вам вынікі падпісной кампаніі на першы квартал 2000 года. На жаль трэба канстатаваць, што газета больш папулярнай не стала. Падпіска, нават, некалькі знізілася, што можа сведчыць толькі пра зніжэнне актыўнасці структур ТБМ па прапагандзе газеты, бо павелічэнне цаны на фоне шалёнай інфляцыі нязначнае. Падпіска на месяц каштуе менш, чым бутэлька піва. Усе праблемы ў нашай працы.

| Берасцейская вобласць: | Кастрычнік | Студзень |
|---|---|---|
| Баранавічы р.в. | 19 | 15 |
| Бяроза р.в. | 4 | 4 |
| Белаазёрск р.в. | - | 1 |
| Бярэсце гор. | 14 | 16 |
| Ганцавічы р.в. | 1 | - |
| Драгічын р.в. | - | 5 |
| Жабінка р.в. | - | 1 |
| Іванава р.в. | 1 | - |
| Івацэвічы р.в. | 2 | 3 |
| Камянец р.в. | 8 | 34 |
| Кобрын гор. | 14 | 11 |
| Лунінец гор. | 1 | 1 |
| Ляхавічы р.в. | 2 | 1 |
| Маларыта р.в. | 1 | - |
| Пінск гор. | 13 | 12 |
| Пружаны р.в. | 1 | 4 |
| Столін р.в. | 4 | 1 |
| **Усяго:** | **85** | **109** |

| Віцебская вобласць | Кастрычнік | Студзень |
|---|---|---|
| Бешанковічы р.в. | 1 | 1 |
| Браслаў р.в. | 21 | 21 |
| Віцебск гор. | 26 | 26 |
| Віцебск РВПС | 2 | 1 |
| Верхнедзвінск р.в | 2 | 2 |
| Глыбокае р.в. | 8 | 8 |
| Гарадок р.в. | 30 | 1 |
| Докшыцы р.в. | 2 | 2 |
| Дуброўня р.в. | 2 | 2 |
| Круляўшчызна | 2 | - |
| Ліёзна р.в. | 20 | 1 |
| Лепель р.в. | 1 | - |
| Міёры р.в. | 2 | 3 |
| Наваполацк гор. | 11 | 17 |
| Ворша гор. | 7 | 7 |
| Полацк гор. | 20 | 19 |
| Паставы р.в. | 3 | 2 |
| Расоны р.в. | - | - |
| Сянно р.в. | 1 | 1 |
| Талочын р.в. | 2 | 3 |
| Ушачы р.в. | 1 | 1 |
| Чашнікі р.в. | 5 | 3 |
| Шаркоўшчына р.в. | 39 | 9 |
| Шуміліна р.в. | 13 | 2 |
| **Усяго:** | **221** | **134** |

| Менская вобласць | Кастрычнік | Студзень |
|---|---|---|
| Беразіно р.в. | 3 | 2 |
| Барысаў гор. | 6 | 7 |
| Вілейка гор. | 4 | 2 |
| Валожын гор. | 7 | 9 |
| Дзяржынск р.в. | 3 | 3 |
| Жодзіна гор. | 24 | 25 |
| Клецк р.в. | 43 | 12 |
| Крупкі р.в. | 1 | 2 |
| Капыль р.в. | 2 | 1 |
| Лагойск р.в. | 9 | 4 |
| Любань р.в. | 6 | 4 |
| Менск гор. | 601 | 544 |
| Менск РВПС | 10 | 9 |
| Маладэчна гор. | 30 | 28 |
| Мядзель | 7 | 3 |
| Пухавічы РВПС | 10 | 12 |
| Нясвіж р.в. | 2 | 2 |
| Смалявічы р.в. | - | 14 |
| Слуцк гор. | 9 | 16 |
| Салігорск гор. | 11 | 6 |
| Ст.Дарогі р.в. | - | 11 |
| Стоўбцы р.в. | 29 | 61 |
| Узда р.в. | - | - |
| Чэрвень р.в. | 12 | 5 |
| Фаніпаль | 2 | 1 |
| **Усяго:** | **831** | **783** |

| Гомельская вобласць: | Кастрычнік | Студзень |
|---|---|---|
| Буда-Кашалёва | 1 | 1 |
| Брагін р.в. | 1 | 1 |
| Ветка р.в. | 2 | 1 |
| Гомель гор. | 70 | 34 |
| Гомель РВПС | 1 | - |
| Добруш р.в. | 2 | 2 |
| Ельск р.в. | - | - |
| Жыткавічы р.в. | 3 | 3 |
| Жлобін гор. | 7 | 6 |
| Калінкавічы гор. | 2 | 1 |
| Карма р.в. | 1 | - |
| Лельчыцы р.в. | - | - |
| Лоеў р.в. | 2 | 3 |
| Мазыр гор. | 2 | 5 |
| Акцябарскі р.в. | - | 6 |
| Нароўля р.в. | 1 | - |
| Петрыкаў р.в. | - | - |
| Рэчыца гор. | 5 | - |
| Рагачоў гор. | 1 | 1 |
| Светлагорск гор. | 2 | 3 |
| Хойнікі р.в. | 2 | - |
| Чачэрск р.в. | 1 | - |
| **Усяго:** | **106** | **67** |

| Гарадзенская вобласць | Кастрычнік | Студзень |
|---|---|---|
| Бераставіца | 1 | 2 |
| Ваўкавыск гор. | 15 | 12 |
| Воранава р.в. | 5 | 5 |
| Горадня гор. | 154 | 123 |
| Горадня РВПС | 44 | 32 |
| Дзятлава р.в. | 18 | 18 |
| Зэльва р.в. | 4 | 4 |
| Іўе р.в. | 6 | 2 |
| Карэлічы р.в. | 4 | 4 |
| Масты р.в. | 31 | 35 |
| Наваградак гор. | 10 | 8 |
| Астравец р.в. | 3 | 4 |
| Ашмяны р.в. | 11 | 9 |
| Смаргонь гор. | 5 | 4 |
| Слонім гор. | 23 | 13 |
| Свіслач р.в. | 4 | 3 |
| Шчучын р.в. | 4 | 3 |
| Ліда | 76 | 18 |
| **Усяго:** | **418** | **299** |

| Магілёўская вобласць | Кастрычнік | Студзень |
|---|---|---|
| Бабруйск гор. | 22 | 45 |
| Бабруйск РВПС | - | - |
| Бялынічы р.в. | - | - |
| Быхаў р.в. | - | - |
| Глуск р.в. | - | 8 |
| Горкі гор. | 11 | 24 |
| Дрыбін р.в. | - | 6 |
| Кіраўск р.в. | - | - |
| Клічаў р.в. | - | - |
| Краскаполле р.в. | - | - |
| Крычаў | - | - |
| Клімавічы р.в. | 5 | 5 |
| Касцюковічы р.в. | 14 | 1 |
| Круглае р.в. | 13 | 8 |
| Мсціслаў р.в. | - | 16 |
| Магілёў гор. | 22 | 20 |
| Магілёў РВПС | 3 | - |
| Асіповічы гор. | 8 | 15 |
| Слаўгарад р.в. | 1 | 1 |
| Хоцімск р.в. | - | 6 |
| Чэрыкаў р.в. | - | 19 |
| Чавусы р.в. | - | - |
| Шклоў р.в. | 14 | 25 |
| **Усяго:** | **113** | **199** |
| **Усяго па краіне** | **1774** | **1580** |

## Шаноўнае спадарства!

У сувязі з 10-годдзем ад часу прыняцця Закона аб мовах Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны праводзіць 26 лютага 2000 года навукова-практычную канферэнцыю "Закон аб мовах – вынікі і перспектывы". Запрашаем узяць удзел у працы канферэнцыі. Тэматыка канферэнцыі ўключае наступныя аспекты: сацыялінгвістычны, нарматыўны, тэрміналагічны. Заяўкі на ўдзел у канферэнцыі падавайце да 1 лютага 2000 года на адрас сядзібы ТБМ у Менску (220005, вул.Румянцава,13). Тэксты выступленняў да 3-х стандартных старонак (па 1800 знакаў у кожнай праз два інтэрвалы) просім накіроўваць да 1-га лютага на той жа адрас. Рэгламент выступленняў на секцыі да 10 хвілін.

Кантактны тэлефон 284-85-11. Аргкамітэт.



**КАНСТЫТУЦЫЙНЫ СУД РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**

№ 05-07/1180 "30" 12 1999 г.

***Старшыні Рэспубліканскай грамадскай арганізацыі "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" спадару Трусаву А.А.***

Паважаны Алег Анатольевіч!

У сувязі з Вашым зваротам паведамляем, што Канстытуцыйны Суд накіраваў у Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь прапанову аб падрыхтоўцы ўказання дзяржаўным органам, органам мясцовага кіравання і самакіравання, прадпрыемствам, установам, арганізацыям і грамадскім аб'яднанням аб неабходнасці ўжывання афіцыйных бланкаў на абедзвюх дзяржаўных мовах.

***З павагай***
***Старшыня Р.А. Васілевіч***



**КАНСТЫТУЦЫЙНЫ СУД РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**

№ 05-07/2 п. 13 "12" 01 2000 г.

***Старшыні Рэспубліканскай грамадскай арганізацыі "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" спадару Трусаву А.А.***

Паважаны Алег Анатольевіч!

Паведамляю, што ў сувязі са зваротам Канстытуцыйнага Суда Прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь С. С. Лінг у сваім лісце ад 5 студзеня 2000 г. за **№ 12\400-51** абавязаў кіраўнікоў міністэрстваў і іншых рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання, аб'яднанняў, падначаленых Ураду Рэспублікі Беларусь, аблвыканкамаў і Мінскага гарвыканкама строга захоўваць патрабаванне заканадаўства аб ўжыванні ў афіцыйнай перапісцы бланкаў на абедзвюх дзяржаўных мовах.

***З павагай***
***Старшыня Р.А. Васілевіч***

## Да сяброў і прыхільнікаў ТБМ, сяброў Рэспубліканскай рады, кіраўнікоў раённых, гарадскіх і абласных арганізацый ТБМ

Паведамляем, што 26.01.2000 г. у канцэртнай зале тэатра "Зніч" пры Чырвоным касцёле ў Менску адбудзецца ўрачыстае паседжанне Рэспубліканскай Рады ТБМ, прысвечанае 10 угодкам Закона аб мовах.

Пачатак імпрэзы ў 17 гадзін.

## Міколу Аўрамчыку – 80 гадоў

Вядомаму беларускаму паэту, празаіку і перакладчыку, заслужанаму работніку культуры Міколе Аўрамчыку 14 студзеня спаўняецца 80 гадоў.

Пачаўшы друкавацца яшчэ ў 1937 годзе, Мікола Аўрамчык неўзабаве пасля заканчэння БДУ на ўсё жыццё звязаў свой лес з часопісам "Маладосць", дзе ўзначальваў аддзел паэзіі.

У творчым багажу паэта зборнікі вершаў, раман "Падзямелле", аповесць "Палон".

Міколе Аўрамчыку чытачы ўдзячны за пераклады на беларускую мову Дж.Байрана, Адама Міцкевіча, Лесі Украінкі і Мусы Джаліля. Да свайго 80-годдзя паэт напісаў новую кніжку ўспамінаў пра класікаў беларускай літаратуры.

На здымку: Мікола Аўрамчык. Фота Яўгена Казюлі, БелТА.





№ 3 (440) 19 СТУДЗЕНЯ 2000 г. наша СЛОВА

# ТБШ у 2000 годзе

З невялікай затрымкай Рэспубліканскае грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай школы" ў лістападзе атрымала з Міністэрства юстыцыі дакументы аб перарэгістрацыі (пасв. № 00738 ад 30.09.1999 г.).

На апошніх пасяджэннях канцылярыі былі выпрацаваны асноўныя кірункі дзейнасці ТБШ у новым годзе. Згодна іх вялікая ўвага будзе надавацца ў гэтую складаную працу з насельніцтвам па пашырэнні сеткі першасных суполак, бацькоўскіх камітэтаў, рэгіянальных структур ТБШ, упарадкаванні іх уліку.

У сувязі з існаваннем ТБМ нам даводзіцца працаваць як сумесна па некаторых праграмах, так і шукаць свае адметныя кірункі дзейнасці. У гэтым асабліва ў апошнія гады вымалёўваецца праца па больш паглыбленай сувязі з творчымі педагагічнымі калектывамі. Так, мы апякуемся дзейнасцю "Этнашкол". Канцэпцыя іх распрацавана сябрам рады ТБШ кандыдатам мастацтвазнаўства Іллёй Сучковым. Яна ставіць мэтай выхавання нацыянальнага свядомага школьніка, які акрамя базавай атрымлівае эстэтычную адукацыю, грунтам якой з'яўляецца народная культура (дысцыпліны: вусная народная творчасць, фальклорны тэатр, харэаграфічны фальклор, фальклорныя спевы, традыцыйнае ўжытковае мастацтва). Вялікая ўвага надаецца традыцыйным каляндарным святам, народным гульням, выкарыстанню менавіта рэгіянальнага фальклору. Досвед асвятляецца ў спецыяльнай серыі дапаможнікаў для настаўнікаў "Беларускі фальклор у школе". Расце колькасць школ, якія прытрымліваюцца згаданай методыкі (СШ № 89, 1 г.Менска, школы ў Вілейцы, Наваполацку, Дзяржынскім р. і інш.).

Мяркуецца, што ў новым годзе і надалей сябры аб'яднання будуць падтрымліваць сувязі з педагогамі замежных краін. Асноўныя формы дзейнасці – узаемаабмены вучнямі, правядзенне сумесных семінараў. Будзем спадзявацца, што такое творчае супрацоўніцтва сёлета адбудзецца з педагогамі Германіі, з якімі "Экаполіс" вядзе перамовы, і інш.

Думаецца, што вялікім і значным мерапрыемствам самага пачатку года стане конкурс на лепшую беларускую вясковую школу ў кірунку "Захаванне нацыянальнай культурнай і гістарычнай спадчыны", які праводзім сумесна з ТБМ. Сітуацыя з беларускамоўнымі школамі ў гарадах і ў вёсках, што раней не наглядалася ў так зв. застойныя гады, так пагоршылася, што было вырашана звярнуць асаблівую увагу на школы ў правінцыях.

Заўсёды знойдзем магчымасць разам з Аб'яднаннем беларускіх скаўтаў і фондам "Мы – дзецям" падтрымаць цікавых і творчых школьнікаў, прапануючы ім ільготныя пуцёўкі на адпачынак і вучобу ў Балгарыі, Чэхіі, айчынных летніках і зімніках. Творчая сувязь з іншымі грамадскімі аб'яднаннямі прадугледжвае супрацоўніцтва ў розных галінах дзейнасці. Сумесна з ТБМ будзем рупіцца аб адкрыцці Беларускага нацыянальнага універсітэта. Новыя магчымасці адкрываюцца ў сувязі з заснаваннем новай грамадскай лучнасці эколагаў і педагогаў "Экаполіс" (старшыня В.Якавенка).

Як заўсёды ў планах будуць розныя цікавыя сустрэчы, выставы, конкурсы, дапаможнікі, аб чым будзем загадзя інфармаваць прыхільнікаў беларусчыны, змагароў за беларускую школу і роднае слова. А без Вас, дарагія, дзейнасць ТБШ немагчыма. Разгортвайма па месцах актыўную працу і разам мы "дойдзем да Беларусі". На гэтым шляху жадаем Вам поспехаў, шчасця ў новым годзе!

*Алесь Лозка, прэзідэнт Рэспубліканскага грамадскага аб'яднання* ***"Таварыства беларускай школы"***.

## ПАДПІСНЫ АРКУШ

**На кнігу выдавецтва "Полымя"** *(2000 г., аб'ём 13 др. арк.)*

**Лозка Алесь. "Беларускі народны каляндар у кантэксце традыцый народаў Еўропы".**

Кніга ўяўляе сабой 2-ое значна дапрацаванае і дапоўненае выданне 1993 г. "Беларускага народнага календара", якое ў храналагічнай паслядоўнасці апісвае народныя святы, прысвяткі, спадарожныя ім абрады, звычаі, ігрышчы, гульні. У новым манаграфічным даследаванні больш звяртаецца ўвагі не толькі на апісанне, але і асвятленне пытанняў паходжання структурных складнікаў БНК, іх адносін з язычніцтвам і хрысціянствам у параўнальным вывучэнні з каляндарнымі традыцыямі народаў Еўропы, што ўпершыню прадстаўлена цэласна і сістэматычна.

БНК адрасуецца не толькі навуковым і практычным работнікам, але і шырокаму колу чытачоў.

| №№ | Прозвішча і ініцыялы замоўніка кнігі | Адрас і № тэлефона | Дзе працуе ці вучыцца | Колькасць асобнікаў | Подпіс |
|---|---|---|---|---|---|

Такі запоўнены аркуш можна аддаваць у гарадскія кнігарні або выслаць на адрас аўтара да 1.02.2000 г. (220098 Менск, пр.Газеты "Известия", 116-21. Тэл. 2740472).

# Самы стары жыхар Менска -- беларус

Мэр Менска Уладзімір Ярмошын 27 снежня выконваў рэдкую місію. Уладзімір Васільевіч павіншаваў жыхарку Менска Ганну Адамаўну Барысевіч з 111 днём нараджэння. Да 80 гадоў Ганна Адамаўна працавала ў калгасе "Стары Койцін" у Бярэзінскім раёне Менскай вобласці. А зараз жыве ў Менску з дачкой Нінай Іпалітаўнай. Нягледзячы на свой, больш чым паважны ўзрост, Ганна Адамаўна адчувае сябе бадзёра.

На здымку: мэр Менска У. В. Ярмошын віншуе Ганну Адамаўну Барысевіч з 111 днём нараджэння. Фота Мікалая Пятрова, БелТА.



**Павел Сцяцко,**

*доктар філалагічных навук, прафесар, намеснік старшыні Гарадзенскай абласной рады ТБМ імя Францішка Скарыны*

# "З чужой моўнай практыкі..."

Працяг

***Улік, уліковы, уліковец – а не учот, учотны, учотчык.*** Словы ***учот, учотны, учотчык*** – штучныя ў беларускай мове, яны не маюць свае матывацыі і ўтваральнае асновы.

***Учёт*** – ад ***учесть/учитывать***. У беларускай мове ім адпавядаюць утварэнні з коранем *–лік-*: ***палічыць, падлічыць, улічыць***. В.Ластоўскі зафіксаваў: "Учесть што каму: улічыць; учёт м.- залічка" (ПРК(Б)С.С.732). БРС – 26 падае: "Падлічаць, -чыць што - ... учитывать, учесть. Падлік – подсчёт, учёт. Падлічка ж. см. падлік" (с.210). І ў акадэмічным "Русско-белорусском словаре" пад рэдакцыяй Я. Коласа, К.Крапівы, П.Глебкі (М., 1953.С.729) засведчана: "Учесть сов. – улічыць, падлічыць; я учел его замечание – я ўлічыў яго заўвагу; учесть расходы – улічыць (падлічыць) выдаткі; учитывать несов. – улічваць, падлічваць; учитываться страд. – улічвацца, падлічвацца". Перавыданні гэтага слоўніка (РБС –82. РБС – 93, РБС – 98) пакінулі згаданыя лексікаграфічныя артыкулы без зменаў, толькі вылучылі два значэнні (замест аднаго): "Учесть сов. 1.улічыць; прыняць пад увагу; 2. (подсчитать) улічыць, падлічыць (РБС – 82. Т.2. С.548; РБС – 93 і РБС – 98. Т.3. С.645). Аднак рас. ***учёт*** падзяляецца на дзве часткі і першая з іх мае не пераклад, а толькі напісанне па-беларуску ў правай (беларускай) частцы: "Учёт 1. (регистрация) учот; снять (сняться) с учёта – зняць (зняцца) з учоту стать на учёт – стаць на ўчот; брать на учёт – браць на ўчот; 2. В.др. знач. улік, падлік; учёт товаров – улік (падлік) тавараў; бухгалтерский учёт – бухгалтарскі ўлік (падлік); учёт труда – улік (падлік) працы; вести учёт – весці ўлік (падлік). Учётный 1. (относящийся к подсчету) падліковы; 2. Относящийся к учету, регистрации) учотны; учётная карточка – учотная картка; учетчик – учотчык, учётчица – учотчыца (БРС-82. С. 729). Тое самае і ў РБС – 82 (Т.2. С.548). І пайшлі гуляць гэтыя учот, учотны, учотчык па старонках усіх акадэмічных слоўнікаў. І нават на месцы таго, што ў слоўніках мела беларускі адэкват падлік, падліковы. Так, у 60 – 80 гадах у выхадных звестках кнігаў, ужо бачым колькасць не падліковых аркушаў, а учотных. Напрыклад, у кнізе "З жыцця роднага слова. Лексікалагічны зборнік".(Выд-ва "Навука і тэхніка". Мінск, 1968. С.180) чытаем: "Уч(отна) – выд. Арк. 9,9". Тое самае і ў кнізе: "П.У. Сцяцко. Беларускае народнае словаўтварэнне. Афіксальныя назоўнікі. Рэд. М.М.Бірыла. (Мн.: "Навука і тэхніка" (1977. С.320): "Уч. –выд.арк. 17,5". Аднак з ўтварэннем суверэнных дзяржаваў распаўся і агульны лексічны фонд. Нацыянальны друк перайшоў на свае ***натуральныя словы: падлік, улік, падліковы, уліковы, падліковец***. І гэта натуральна, бо не сталаваліся расейскамоўныя ***учот, учотны, учотчык*** і іх дэфініцыі. Як, да прыкладу, вось такое: "Учотчык, а, м. Асоба, якая вядзе ўлік чаго-н. Учотчык палявой брыгады. На фермах ... няма ні вартаўнікоў, ні ўчотчыкаў – даяркі самі вядуць улік надоенага малака. Кухараў" (ТСБМ. Т.5.Кн.2. Мн., 1984.С.94). "Русско-белорусский словарь" 1993 (і РБС – 98, яны ідэнтычныя), улічыўшы маўленчую практыку, факты нацыянальнага друку, ужо не падае гэтых штукарстваў ***учотны*** і ***ўчотчык***, а толькі беларускія іх адэкваты. На с.645, 646 (Т.3) чытаем: "Учётный 1. (относящийся к подсчёту) падліковы; 2. (относящиеся к учёту, регистрации) уліковы; учётная карточка – уліковая картка; учётчик – падліковец". Але і тут бачым гэтае ***"учот"***, праўда, ізаляванае.

У новым "Тлумачальным слоўніку" (Мн.,1996), бачым усё, што панавала ў савецкіх слоўніках (БРС – 88,89, РБС – 82 ды інш.). На с.703 чытаем: "Учот, учотны; Учотчык – асоба, якая вядзе ўлік чаго-н. Учотчык палявой брыгады// ж. учотчыца". Гэты беларускі адnatомавік складаўся на падставе яго расейскага аналага: С.И. Ожегов. Словарь русского языка (М.,1982. С.752), дзе чытаем: "Учётчик, -а, м. Работник, ведущий учёт кого-чего -л.// ж. учётчица". Як бачым, аўтар беларускага даведніка добрасумленна спісаў дэфініцыю з расейскага слоўніка, замяніўшы ***учёт*** на ***ўлік***. Але ж як тады растлумачыць у беларускім тэксце: ***учотчык ... вядзе улік***. Калі гэта учотчык, дык ён вядзе учот, а калі вядзе ўлік, то гэта ўжо уліковец (падліковец).

***Седніца, сядальня і сядальны – ці сядалішча і сядалішчны.*** Утварэнні з суфіксам *–лішч-а* для беларускай мовы нехарактэрныя. Невыпадкова слова ***вучылішча*** замяняецца іншасуфіксавымі ўтварэннямі ***вучэльня*** і ***навучальня*** (гл. пра гэта вышэй). Таму нават у тэрміналогіі бачым аднакаранёвыя дэрываты (вытворныя) з іншымі суфіксамі. Так, у біялогіі (анатоміі) выкарыстоўваецца ***седніца*** і ***сядальня*** як адэкват рас. ***седалище***, ***сядальны – седалищный***. Іх падае "Анатомический словарь" (русско-белорусско-латинский... - Мн.,1998); "Ягодица, седалище – крумянок, седніца" (с.192), седалищный – сядальны, седалищная кость – сядальная косць (с.150). У "Слоўніку зопаразіталагічных тэрмінаў" Я. Ятусевіча і В.Капліча (Мн.,1993) бачым аднакаранёвае ***"сядальня – седалище"*** (с.258).

Аднак слоўнікі савецкага часу падавалі толькі ўсесаюзныя тэрміналагічныя стандарты. РБС – 53 фіксуе: "Седалище 1.анат. сядалішча, ср. 2. (место для сиденья) уст. Сядзенне ср.; седалищный анат. сядалішчны; седалищный нерв – сядалішчны нерв" (с.616). Як бачым, тут ужо знікла беларускае слова. Праўда, наступныя яго перавыданні (РБС – 82, РБС – 93, РБС – 92) падаюць гэтыя словы, але як застарэлыя: "Седалище, уст. шутл. 1. анат. сядалішча; 2. (место для сидения) сядзенне" (РБС – 82. Т.2. С.371; РБС – 93. Т.3. С.323).

А "Тлумачальны слоўнік" 1996 года ўжо не згадвае гэтых абмежаванняў: "Сядалішча, - а н. частка чалавечага цела, на якую садзяцца: ягадзіцы// прым. сядалішчны, -ая, - ае" (с.647). Перапісанае з расейскага слоўніка: "Седалище, -а, ср. То же, что ягодицы (спец.)// прил. седалищный" (СРЯ Ожагава. С.630).

***Ганіцель... Чыё гэта слова?*** У "Тлумачальным слоўніку" 1996 года чытаем: "Ганіцель, - я, м. Той, хто праследуе, прыгнятае каго-н.// ж. ганіцелька..." (с.143). Калі кіравацца дэфініцыяй, то тут натуральнымі мусяць быць словы (ад падставовых у тэксце ***праследуе, прыгнятае***) ***перасленік і прыгнятальнік***. Але гэтае ***ганіцель*** і яго азначэнне перапісаныя з даведніка: С. И. Ожегов. Словарь русского языка (М.,1982. С.123): "Гонитель, - я, м. Притеснитель, преследователь//ж. гонительница". У расейскай мове гонитель – утварэнне ад ***гнать 'притеснять, подвергать гонениям'*** (Тамсама.С.120). А ў згаданым "Тлумачальным слоўніку" 1996 г. дзеяслоў ***гнаць*** натуральна не мае такога значэння (гл. с.152). У яго папярэдніку (ТСБМ. Т.2. Мн.,1978. С.63) слова ***гнаць*** з значэннем ***'прыгнятаць, мучыць'*** кваліфікуецца як застарэлае. Рас. ***гнать (притеснять)*** мае беларускія адпаведнікі ***прыгнятаць, уціскаць*** (РБС – 82. Т.1.С.180). "Беларуска-рускі слоўнік" пад рэдакцыяй акадэміка К.Крапівы засведчыў: "Уціск, -ку м. – гнёт, притеснение, угнетение, преследование" (Т.2. Мн.,1989. С.635).

Як бачым, ***ганіцель*** – штучнае пазычанне, пра гэта сведчыць як яго будова (суфікс – ***цель (<тель)***, так і адсутнасць матывавальнай базы. Такім жа штучным ёсць і слова ***ганенне*** (<рас.гонение), якому адпавядаюць ***перасслед, прыгнёт, уціск***.

*(Працяг у наст. нумары).*



# “Настаўнік, перад імем тваім”

*“Не смейце, забываць, настаўнікаў сваіх!...”*
*Андрэй Дзяменцеў.*

Калі б мяне спыталі, якой павінна быць школа, у якой праводзяць дзеці некалькі гадоў жыцця свайго, то я, не задумваючыся, адказала бы: любімай.

Так, так – гэта перш за ўсё, а потым ужо – усё астатняе. У школе павінна быць асяроддзе дружнай і любячай сям'і, дзе аўтарытэт старэйшых дасягаецца не ўладай, а ўменнем, як і патрабавальнасць прадыктована клопатам і любоўю.

Менавіта такой для многіх вучняў і стала адзіная ў Вільні беларуская школа імя Францішка Скарыны, якая з кожным днём усё больш і больш набірае аўтарытэт у летувіскім грамадстве. Для многіх яна стала другім, а, можа, і першым домам.



**Яраслаў Станкевіч, першы справа з вучнямі віленскай беларускай школы імя Фр. Скарыны на святкаванні 80-годдзя віленскай беларускай гімназіі, 1999 г. Фота Леакадзіі Мілаш.**

Вядома, што вырашальную ролю ў станаўленні педагагічных і маральных прынцыпаў мае творчы калектыў аднадумцаў. Аб адным з настаўнікаў мне хочацца расказаць. Яраслаў Станіслававіч Станкевіч – настаўнік хіміі, метадыст – вышэйшай катэгорыі. Нашчадак вядомага беларускага дзеяча, асветніка, паэта ў міжваенны час Станіслава Станкевіча, вучань славутай віленскай беларускай гімназіі. Я.Станкевіч працаваў у польскай школе імя У.Сыракомлі і, як толькі адкрылася беларуская школа, ён выкладае хімію, напісаў некалькі дапаможнікаў па неарганічнай хіміі, выдаў слоўнік хімічных тэрмінаў на беларускай і летувіскай мовах. У школе імя Фр. Скарыны вучыцца і яго ўнук Уладзімір Станкевіч, прадаўжальнік справы прадзеда і дзеда. Яраслаў Станкевіч не толькі настаўнік, але і бязменны кіраўнік школьнай рады, якому даводзіцца вырашаць бясконцыя школьныя праблемы, а іх, нямала. Ён прыцягвае і дзяцей, і бацькоў сваёй даступнасцю, ён карыстаецца аўтарытэтам, яго любяць, паважаюць, ён бы неаддзялімы ад школы. Яшчэ адно захапленне – шахматы, і не толькі захапленне, і тут ён прафесіянал, сабраў багатую бібліятэку, мае шмат узнагарод, цяпер майстэрства гульні перадае падрастаючаму пакаленню, вядзе гурток шахматаў у пачатковых класах. Я бачыла, з якім задавальненнем дзеці займаюцца, як загараюцца ў іх вочы ад асалоды гульні і з якім нецярпеннем чакаюць настаўніка. У размовах з дзецьмі, калегамі, у праведзенні асабістых урокаў Яраславу Станкевічу дапамагае не толькі дыплом – глыбокія веды, атрыманыя ў Віленскім універсітэце, але і яго артыстызм, непасрэднасць, гумар.

Я.Станкевіч ўдзельнічае ў грамадскім жыцці беларусаў Вільні, з'яўляўся сябрам камісіі па адраджэнні беларускага касцёла, цяпер, адзін з нямногіх актыўных вернікаў, адроджваў беларускае жыццё ў Вільні напрыканцы 80-х гадоў. Яму неабыякавы лёс Бацькаўшчыны, гісторыі, культуры, беларускай справе аддаў жыццё бацька Станіслаў Станкевіч.

Яраславу Станкевічу споўнілася 70. Адна настаўніца сказала, што бацька яе мужа, якому, таксама, 70 здзіўіся, што ў такім узросце і яшчэ працуе ў школе. І, сапраўды, нельга ўявіць, што незвычайна рухомаму, жыццярадаснаму, заўсёды элегантнаму, стройнаму, сціпламу, любімаму нашаму настаўніку ўжо 70. Але пачуццё гумару, як і аптымізму ён не губляе. І сагравяюць яго непаўторныя гады, якія адыходзяць без вяртання, якія Яраслаў Станіслававіч пражыў сам і амаль пяцьдзесят аддаў з іх сваім выхаванцам. А яны іх будуць памятаць.

*Леакадзія Мілаш, г.Вільня.*

# Аб пазіцыі настаўнікаў у сваёй працы

Прачытаў у “Нашым слове” № 39 “Віншаванне беларускім настаўнікам” Сакратарыята ТБМ імя Ф.Скарыны і задумаўся: вельмі прыгожыя і правільныя словы выказаны пра іхнюю працу і стан нашай мовы. Безумоўна, “пакутна бачыць, як нямее край, разбураецца роднамоўнае жытло”. Вядома, выкладчыкі роднай мовы і літаратуры сапраўды, “нясуць прыгожа і годна сваю беларускасць, асвечаную сівымі стагоддзямі”. Але і яны абмежаваны рэгламентацыямі органаў адукацыі, рамкамі ўладнай праграмы, з якой у мінулым годзе выключна вывучэнне патрыятычных вершаў Л.Геніюш, Н.Арсенневай, М.Сяднёва. А ці ўсе змогуць праўдзіва растлумачыць вучням адносіны Васіля Быкава да сучаснай улады або прычыны эміграцыі старшыні СПБ Уладзіміра Някляева за мяжу з прычыны разыходжання ў поглядах з прэзідэнтам на цяперашні стан нашай мовы. Не кожны зможа аб'ектыўна данесці вучням звесткі пра нашу супярэчлівую рэчаіснасць.

Але большасць настаўнікаў - гэта служboўцы нашай улады, яны абавязаны выконваць яе задачы, за гэта атрымліваюць зарплату, а магчыма, і якія-небудзь заахвочванні і ўзнагароды. Успомнім, як на настаўніцкім з'ездзе дэлегаты вернападдана пляскалі прэзідэнту, а ён багата, па-царску ўзнагародзіў аўтамабілем пераможцу конкурсу прафесійнага майстэрства за 1997 год, ашмянскую выкладчыцу гісторыі Валянціну Гінчук, а наш райвыканкам і аддзел адукацыі выдалі ёй яшчэ і грашовыя прэміі. Дарэчы, такі ж прыз “Крыштальны журавель” у 1995 г. атрымаў выкладчык фізікі з Драгічына на Палессі Уладзімір Зданевіч таксама з рук А.Р.Лукашэнкі, і пераможца конкурсу быў вельмі задаволены тым, што змог з прэзідэнтам пагаварыць па-беларуску. (“Наша слова”, № 52.1995г).

Нашы настаўнікі ў пераважнай большасці вучыліся ў расейскамоўных школах, падобных педвучылішчах і вышэйшых навучальных установах, працавалі ў такіх жа калектывах, ужо прывычна карыстаюцца штодзённа расейскай мовай, а з ужываннем роднай адчуваюць пэўныя цяжкасці. Вось чаму толькі невялікая частка педагогаў глыбока прасякнута патрыятычнымі пачуццямі, гатова адстойваць нацыянальную ідэю і нясці яе вучням. Але ў наш час немагчыма адгарадзіцца ад рэчаіснасці, і яна патрабуе ад усіх настаўнікаў праўдзівай ацэнкі супярэчлівых фактаў штодзённага жыцця. Гэта патрэбна дзеля таго, каб быць аб'ектыўнымі і выконваць пачэсную ролю настаўніка моладзі.

Кожны з педагогаў можа і павінен абуджаць і адраджаць беларускія каштоўнасці як на ўроках, так і на школьных вечарах, святах, лінейках, гаварыць, чытаць вершы, спяваць на роднай мове. Таму ўспрыміце сэрцам зычэнні Таварыства беларускай мовы: “Чуйце зямлю сваю і не цураецеся яе, ведайце мову сваю і піце яе мілагучную моц”.

*Міхась Пузіноўскі, настаўнік-ветэран з Ашмян.*

# Аповесць пра словы

## ГАРМАТА

Гэтае слова прыйшло на Беларусь у ХІУ стагоддзі разам з крыжацкім войскам і зараз з'яўляецца агульным назовам для розных тыпаў артылерыйскай зброі.

Першыя гарматы ўяўлялі сабою жалезныя трубы, далі сябе захапіць маскоўскаму войску падчас шматгадовай вайны 1654-1667 гадоў.

Да стральбы з цяжкіх і лёгкіх гарматаў (гакаўніц) былі прыстасаваныя не толькі беларускія замкі, але і



**Нясвіжская гармата “Гідра”. 1599 г.**

але пачынаючы з ХУ ст. іх сталі адліваць з медзі ды бронзы. Стралялі з гарматаў да ХУІ ст. каменнымі ядрамі, але ж паступова іх замянілі свінцовымі, а потым і чыгуннымі. Паколькі Беларусь ў ХУІ-ХУІІІ стст. стала месцам бесперапынных войнаў, беларусы вельмі хутка навучыліся вырабляць уласныя гарматы. Вытворчасць гармат існавала ў розных гарадах, але самымі знакамітымі былі нясвіжскія гарматы, выраб якіх наладзілі Радзівілы. Кожная радзівілаўская гармата мела сваю назву, была аздобленая арнаментам і нават шыльдачкай з рознымі лацінскімі выслоўямі. На жаль, зараз яны знаходзяцца ў Стакгольме і Крамлі, куды іх вывезлі шведскія і царскія захопнікі ў розныя часы.



**Гармата “Папугай”. 1600 г. Нясвіж**

каменныя храмы розных канфесіяў (праваслаўныя і уніяцкія цэрквы, касцёлы, кальвіністкія зборы і, нават, сінагогі). Напрыклад, менскі даміканскі касцёл меў абарончы мур таўшчынёй да 5 метраў, які ўнізе прарэзалі вялізныя байніцы для цяжкіх гармат буйнога калібру.



**Гармата “Вінаград”. 1600 г. Нясвіж**

Нашыя продкі былі добрымі артылерыстамі. Беларускія гарматнікі пад кіраўніцтвам гетмана Астрожскага ў 1514 годзе практычна выйгралі Аршанскую бітву. Кожны наш вялікі горад меў значную колькасць уласных гарматаў розных калібраў і сваіх гарматнікаў.



**“Арган” ХУІІ ст.**

Так, дзякуючы свайму гарматнаму рыштунку, знакамітыя Слуцкія замкі не

Пасля захопу Беларусі Расейскай імперыяй нашыя хлопцы і мужчыны на 200 гадоўператварыліся ў танное гарматнае мяса. Гэты тэрмін тлумачальны слоўнік беларускай мовы, што выйшаў у Менску ў 1979 годзе, падае так: “Гарматнае мяса – пра людзей, якіх насільна пасылаюць на смерць у часе захопніцкіх войнаў”. Тысячы і тысячы беларускіх хлопцаў палеглі пад сценамі Ізмаіла, на палях Фінляндыі, у пясках Сярэдняй Азіі, на Шыпкінскім перавале і ў сопках Маньчжурыі.

Савецкая імперыя прадоўжыла традыцыю выкарыстання беларускага гарматнага мяса. Гэта – страшэнная фінская вайна, Будапешт і Прага, Карэя ды Егіпет, Сірыя і В'етнам. Менавіта Віцебская, а не, да прыкладу, Разанская дывізія захапіла Кабул. І таму ў старажытным цэнтры Менску, пасярод Свіслачы, узнікла “Выспа слёз”.

Таму і мае сённяшняя Расія, вельмі хворая на постімперскі сіндромм, паразы ў Чачэніі, бо няма там ужо беларускага і ўкраінскага гарматнага мяса.

Таму і выходзяць мужныя людзі на вуліцы і плошчы беларускіх гарадоў, выступаюць супраць анексіі Беларусі з боку Расеі, бо не хочуць, каб іх дзеці і ўнукі зноў сталі гарматным мясам у шматлікіх расейскіх войнах.

*Алег Трусаў, канд. гістарычных навук.*

# НЯЎРЫМСЛІВАЕ СЭРЦА МАЙСТРА

20 кастрычніка ў культурным жыцці краіны адбылася даволі значная падзея – у касцёле св. Сымона і св. Алены адкрылася Малая зала Дзяржаўнай філармоніі Беларусі, дзе будзе размяшчацца Беларускі тэатр аднаго акцёра "Зьніч" на чале са славутай Галінай Дзягілевай. Вечарына з нагоды адкрыцця тэатра сабрала шмат вядомых людзей Беларусі і мела гучны рэзананс у прэсе.

І ў той жа вечар у памяшканні бібліятэкі імя Адама Міцкевіча, размешчанай у гэтым жа касцёле, адкрылася выстава карцін невядомага пакуль шырокаму колу людзей мастака Аляксандра Зубрыцкага.



З кнігі водгукаў: ***"Уражанне выключнае. Дай Божа, каб так і надалей падымаць пласты беларускай гісторыі. Па форме і тэхніцы – арыгінальна, па зместу – глыбока сэнсоўна".***

Многія наведвальнікі за гэты час пазнаёміліся з выставай. Усе яны – моладзь і людзі сталага ўзросту – удзячны аўтару за працу. Пройдзем і мы па выставе. З дапамогай аўтара трапляем у розныя мясціны Беларусі, разам з ім крочым сцяжынкамі гісторыі.

Выстава складаецца з трох раздзелаў, першы з якіх мае назву "Дарога крыжовая да незалежнасці" і вяртае да падзей, звязаных з паўстаннем Кастуся Каліноўскага 1863 г. і вайной з Польшчай 1919 – 1920 гг. А.Зубрыцкі нібыта збірае ў адзіны мемарыял раскіданыя па Беларусі помнікі ваярам і напамінае, што мы, беларусы, маем з суседнімі народамі адзіную гістарычную спадчыну, якую, на жаль, не прывучаны шанаваць. Помнікі знаходзяцца ў ганебным стане, многія з іх наўмысна пашкоджаны, магілы зараслі пустазеллем, святыя месцы пера-твораны ў сметнікі.

З кнігі водгукаў. "Аўтар экспануемых работ – урач, і, здавалася б, лячыць яму "плоць людскую". Але Гасподзь даў яму дар лекавання духоўнага, што з'яўляецца яшчэ больш важным служэннем. Выстава Аляксандра Зубрыцкага з'яўляецца сеансам рэанімацыі душы, памяці, абуджэння любові да блізкага, які жыве альбо пайшоў на суд да Госпада нашага Езуса Хрыстуса".

На Беларусі выстава экспануецца ўпершыню, але ў траўні гэтага года яе з пашанай прымалі ў Варшаве. У касцёле св. Крыжа, дзе выстаўляліся карціны, каля кожнай з іх гарэла свечка і стаялі кветкі. Многія наведвальнікі не саромеліся слёз – для іх гэта была сустрэча з роднымі мясцінамі, вяртанне да сваіх каранёў.

Пакрысе вяртаюцца да нас традыцыі шанавання продкаў – памінальныя дні. "Мо знойдзецца які добры чалавек, - думае А.Зубрыцкі, - які прыйдзе ў такі дзень да адзінокай "чужой" магілкі, прыбярэ яе, паложыць кветкі, запаліць свечку ды ціхенька памоліцца за супакой душы." Кажуць, ва ўсім цывілізаваным свеце так і ёсць.

З кнігі водгукаў. "Выстава ўразіла сваёй непаўторнасцю і нетрадыцыйнасцю. Падышоў бліжэй да карціны з выявай крыжа – знака воінскай доблесці – з надпісам "Virtuci milyteri". Угледзеўся і, не паверыў сваім вачам, ціхенька памацаў абрыс крыжа. Здавалася, ён складаўся з маленькіх пясчынак. Фарбы так натуральна пераходзілі адна ў другую, тэхніка выканання здавалася неверагоднай. Па-ней даведаўся, што гэта каляровае шкло, праца па выкананню карціны патрабуе не толькі мастацкіх здольнасцей, але і часу, бо яна марудная і крапатлівая."

Сапраўды, мастак працаваў над гэтай выставай 10 год. Гэта быў час, калі стварaліся карціны, але накапленню матэрыялу для гэтага ён прысвяціў усё сваё жыццё.

У другім раздзеле "Касцёлы Беларусі" прадстаўлены касцёлы, пабудаваныя ў Смаргоні, Засвіры, Івянцы, Воўчыне, Паставах, Вілейцы і інш. Лёс іх цікавы, звязаны з гістарычнымі асобамі і падзеямі, аб якіх з вялікім захапленнем расказвае сам аўтар, які з'яўляецца не толькі мастаком, але і вялікім знаўцам гісторыі.

Дарэчы, сам Аляксандр Зубрыцкі па нацыянальнасці – беларус, па веравызнанню – праваслаўны.

З кнігі водгукаў: ***"Вашыя работы, Ваш талент існуюць для ўсіх людзей, незалежна ад нацыянальнасці і веры".***



Апошні цыкл працы мастака "Беларусь Міцкевіча", прысвечаная 200-годдзю з дня нараджэння песняра Літвы, адлюстроўвае асноўныя месцы, звязаныя з паэтам: Завоссе, Наваградак, Вільня, возера Свіцязь, Бальценікі.

З кнігі водгукаў:

***"Як цудоўна, што ёсць такія людзі, як А. Зубрыцкі, якія імкнуцца праз свой талент, свае творы паказаць нам нашу гісторыю, моц і веліч беларускага народа. З павагай зямлячка Адама Міцкевіча".***

Многае можна было б сказаць аб самім Майстры: цікавасць абуджае не толькі яго праца, але і ён сам, яго паходжанне, лёс, адукаванасць, духоўны свет. Але няхай аб ім распавядаюць яго карціны. А мы проста скажам Аляксандру Зубрыцкаму дзякуй за шчырае сэрца і залатыя рукі, за любоў да роднай зямлі. Сапраўды, любоў да ўсяго створанага – гэта і ёсць любоў да Бога.

# Слова з берагоў Нявы



**Добры дзень, шаноўная рэдакцыя!**

Нягледзячы на тое, што жыву я ў Санкт-Пецярбурзе, часцяком трапляецца вашая газета ў горад ля Нявы. Мяне завуць Сяргей Сурыновіч. Я нарадзіўся 13 красавіка 1976 года ў вёсцы Лугамовічы Іўеўскага раёна, Гарадзенскай вобласці. Зараз навучаюся ў Духоўнай Семінарыі на шостым курсе, рыхтуюся да святарства. Мае бацькі Сурыновіч Уладзімір Іванавіч і Тарэса Яўгенаўна працуюць настаўнікамі. Дзякуючы ім, глыбока ў сэрцы заселася роднае слова і любоў да Радзімы. У будучым я буду працаваць у Расеі, абвяшчаючы аб Хрысьце і Яго Евангеллі.



Дасылаю вам некалькі маіх вершаў, якія, як і ўсе, падпісваю псеўданімам Яўген Бартніцкі.

Першыя вершы былі напісаны ў Горадні, навучала пісаць іх Данута Янаўна Бічэль – Загнетава. Першае, што было напісана – "Батлейка" – вершаваны спектакль для дзетак, які быў надрукаваны ў часопісе "Дыялог". У мінулым годзе ў Санкт-Пецярбурзе выйшаў мой зборнічак вершаў "Летуценьнік". З гэтага зборнічка вершы гучалі на радыё "Свабода". Амаль у кожным нумары газеты "Крыніца", якая выдаецца ў Санкт-Пецярбурзе, з'яўляюцца мае новыя вершы.

Магчыма, трошкі незвычайна, што будучы святар піша вершы. Думаю, што і гэтым чынам можна праслаўляць Бога, Яго вялікасць і прыгожасць, бачачы Яго прысутнасць і глыбіню ў прыродзе, у жыцці штодзённым, у любові да роднага, Ім дадзенага, і ў чалавечай душы. І гэта першая мэта ўсяго, што я пішу. Маленькае свядоцтва вернага...

Буду вельмі рады, калі мае вершы палічыце годнымі, каб выкарыстаць у вашай газеце.

*З павагаю Яўген Бартніцкі, Санкт-Пецярбург.*

## Яўген Бартніцкі

### На прысвятак дня

Падалеў ночы змрок,
Павышэла святло –
Зараніца за крок
Галам высвеціць дно.

Ачуняе сяло,
Што хавае слiўняк –
Адшукае вясло
Недаспаны рыбак.

У кустах над ракой
Птушкі вытвараць спеў –
Пабялеюць імглой
Кроны стомленых дрэў.

Між цыб'я дзіўны цвет
Парасіла зара –
Дыяментаў букет
Дорыць сонца пара.

Разнасцяжыў прастор
Для вятрыска гульні,
Што падрапаўшы бор,
Паласнуў камяні.

Смела ўдарыў вадзе
У запужаны твар,
Што на поле прадзе
Белым покрывам пар.

Бы вясёлкі дугой
Палавее пара –
Сцемеў змрок над зямлёй,
Змоўкла ў лесе сава.

Пазырчэла. Зноў ціш.
Між сцяжынкаў дзірван –
Пазакінуты крыж
Рассякае туман.

На крыжы тым ручнік
Саматканы з ільну –
Ў ім узораў бязлік
Абвяшчае вясну.

Пад крыжом васількі
Бы люструнак нябёс –
На крыжы без рукі
У распяцці Хрыстос.

Пад бусліным крылом
Ён пакідзішчам стаў –
Аксамітным плашчом
Зеляніць медны сплаў.

Між стагоддзя камет
Ён ня спалены лоўж –
Скрыжаваў свой завет
Папярок і наўздоўж.

Прытуліў да сябе
Горам стомлены люд –
Абвяшчаў аб вясне
Абяцаў з неба цуд.

Зломак мокры расой,
Сімвал новага дня –
Па-над грэшнай зямлёй,
Як крыніца святла.

І на прысвятак дня,
Што завецца Вялік –
Сонцамззяе зямля,
Змрок зласнеючы знік.

### Мне патрэбны арліныя крылы

Мне патрэбны арліныя крылы,
Каб лунаць над маёю Літвою:
Наталіўшы крыніцамі сілы,
Золкам раны скрапіўшы расою,
Узляцеўшы імгненна ў сусветы,
І сабраўшы сузор'і ў далоні, -
Непагасным святлом абагрэты,
Іх змясціць у радзімы ўлонні.
Каб яна спарадзіла фальваркі,
Ўваскрэсіла крыжы і капліцы,
Камяністыя замчышчаў каркі
І магутныя сцены сталіцы.
Мой Навагрудак стромкі паўстане,
Пагатоў свіст заціхне скавышу.
Затаіцца абшар у тумане,
Увабраўшы адхланне і цішу.
Заблукае чужак дзесь у полі,
Як бы хлуд, што стаптала дарога,
Застанецца пустым ён, бяз долі –
Бо вяртаецца Край мой да Бога.
Не іскрыце варожыя вочы,
Што радзіму маю спапялілі...
Чорным дымам і покрывам ночы
Скрозь дыханне шапталі, глумілі:
Не ўваскрэснуць муры анігаткі –
Тваіго ўзлёту тандэтная рата:
Азярышчам схаваны забыткі,
Ўся Літва, бы абдзёртая шата.

### Мне ганарыцца маёю зямлёю

Мне ганарыцца маёю зямлёю
Наканаваў лёс Вялікіх Князёў:
Мужнасць народа часінай ліхою,
Кроў неадступных Літвы ваяроў.

Мне ганарыцца маёю зямлёю
Кніга Скарыны дала цвёрду моц,
Вершы паэтаў, што мове нямою
Стаць не далі, словам грэючы ноч.

Мне ганарыцца маёю зямлёю
Даў непахісны віхурамі крыж,
Сьведчаньне веры праследаў парою,
Святасці сэрцаў пакорная ціш.

### XXXXX

Я дзедзіч неба,
Асушка хлеба,
Вясковай мовы,
Каня падковы,
Брыля з саломы,
Уласнай стомы;
Васпан вадзіцы,
Зары святліцы,
Красы палеткаў,
Вясенніх кветкаў,
Дажджу часіны,
Лісткa асіны;
Я спадкаемца
Ў стажочку сенца,
Блакітных росаў,
Чаканых вёснаў,
Маёй адзінай
Зямлі радзімай.

*Уладзімір Арлоў*

# АДКУЛЬ НАШ РОД

*(Працяг)*



## Апошні бой Касцюшкі

У кастрычніку паўстанцкі камандзір прыняў свой апошні бой. Гэта здарылася ў Польшчы пад Мацяёвіцамі. Там калона паўстанцаў, якую Касцюшка вёў на Варшаву, сустрэлася з царскім войскам.

Бітва доўжылася цэлы дзень. Гарматны агонь расейцаў рассеяў паўстанцкую кавалерыю. Мужныя, але дрэнна абучаныя касіянеры палеглі ад куляў і штыкоў царскай пяхоты.



**Касцюшка вядзе паўстанцаў у бой.**
*Паводле карціны Ю. Косака, 1879 г.*

Касцюшка ў роспачы ездзіў на кані сярод параненых і забітых. Ён таксама хацеў загінуць са сваімі паплечнікамі па барацьбе. Нейкі салдат стрэліў па ім, але трапіў у каня. Тадэвуш вылецеў з сядла на дол, і да яго кінуліся царскія казакі. Каб не аддацца ў рукі ворагам, ён хацеў застрэліцца, аднак пісталет даў асечку. Царскі афіцэр ударыў бяззбройнага паўстанца шабляю па галаве.

Непрытомнага паўстанцкага камандзіра захапілі ў палон, адвезлі ў Пецярбург і пасадзілі ў самую страшную расейскую турму, што знаходзілася ў Петрапаўлаўскай фартэцы. Праз год у адной з суседніх камер з'явіўся яшчэ адзін важны вязень – былы кароль Рэчы Паспалітай Станіслаў. Ягонай дзяржавы ўжо не існавала.

Пасля палонення Касцюшкі камандаваць узброенымі сіламі паўстанцаў быў прызначаны таксама наш зямляк Тамаш Ваўжэцкі.

Аднак сілы змагароў слабелі. Расейскія войскі штурмам авалодалі Пражскім прадмесцем Варшавы. Загадам Суворава ягоныя салдаты вынішчылі ўсіх мясцовых жыхароў. За ўзяцце Варшавы, якую разам з палякамі абаранялі і беларускія паўстанцы, адданы царскі служака Сувораў атрымаў званне фельдмаршала.

Тадэвуш Касцюшка пасля вызвалення з царскай турмы да скону дзён жыў на чужыне.

Нават у старасці ён амаль кожны дзень выпраўляўся на конную прагулянку. Конік у былога паўстанцкага камандзіра быў рахманы і кемлівы. Калі па дарозе сустракаўся жабрак, конь сам спыняўся, бо ведаў, што ягоны гаспадар абавязкова дасць гэтаму няшчаснаму чалавеку грошай.

Пасля паўстання дзесяткі тысяч беларусаў мусілі пакінуць заняволеную чужынцамі Бацькаўшчыну.

Шукаючы прыстанку ў іншых краінах, яны думалі пра тое, як вярнуць роднай зямлі незалежнасць.

Шмат хто з іх запісваўся ў войска да маладога французскага генерала Напалеона.

Напалеон неўзабаве стаў імператарам Францыі. Ён рыхтаваўся да вайны з Расеяй.

Беларусы, якія апынуліся ў ягонай арміі, марылі пра тое, што Напалеон дапаможа вярнуць іх радзіме – Вялікаму княству Літоўскаму – незалежнасць. Але пра гэта пойдзе гаворка ўжо ў наступным апавяданні.

**Пытанні і заданні:**

1. *Раскажы пра дзіцячыя гады будучага правадыра паўстання.*
2. *Чаму сябры называлі Тадэвуша Касцюшку "Шведам з-пад Берасьця"?*
3. *За што Касцюшка атрымаў званне ганаровага грамадзяніна Злучаных Штатаў Амерыкі?*
4. *Раскажы пра пачатак паўстання нашых продкаў супроць расейскага панавання. За што змагаліся паўстанцы 1794 года?*
5. *Хто кіраваў змагарамі ў Беларусі? Раскажы, што табе вядома пра Якуба Ясінскага.*
6. *Што ты даведаўся пра Міхаіла Клеафаса Агінскага?*
7. *Ці ваявалі паўстанцкія атрады каля твайго роднага горада або вёскі? Калі ваявалі, то хто імі камандаваў?*
8. *Каго называлі касіянерамі?*
9. *Раскажы пра апошні бой Касцюшкі.*
10. *Хто душыў паўстанне Тадэвуша Касцюшкі?*
11. *Ці ёсць у тваім горадзе або пасёлку вуліца імя Суворава? Калі ёсць, дык ці згодны ты з гэтым?*
12. *Чаму беларусы не павінны шанаваць памяць Суворава?*

## Беларусь і Напалеон

*У 1812 годзе французскі імператар Напалеон пачаў вайну з царом Аляксандрам I. Расейскія гісторыкі называюць гэтую вайну Айчыннай, гэта значыць, такой, калі баронячы Радзіму, супроць захопнікаў падымаецца ўвесь народ.*

***Але для Беларусі тая вайна была інакшаю. Нашы продкі не лічылі Расейскую імперыю сваёй Айчынай. Яны не хацелі бараніць краіну, якая пазбавіла іх народ незалежнасці. Шмат хто з беларусаў спадзяваўся, што Напалеон дапаможа адрадзіць Вялікае княства Літоўскае.***

## Пачатак вайны

Для паходу на Расею французскі імператар падрыхтаваў велізарнае 600-тысячнае войска. Напалеон называў гэтую збройную сілу сваёй Вялікай арміяй. Французаў у ягоным войску налічвалася менш за палову. Астатнія жаўнеры былі жыхарамі іншых краін. Напалеон быў выдатным палкаводцам і да вайны з царом Аляксандрам здолеў усталяваць сваю ўладу амаль над усёй Еўропай.

У купальскую ноч 1812 года Вялікая армія пераправілася праз Нёман, па якім тады праходзіла расейская мяжа. Праз чатыры дні Напалеон ужо ехаў па вуліцах Вільні. Былая сталіца Вялікага княства сустракала Напалеона як вызваліцеля. Жанчыны закідвалі яго кветкамі, юнакі пыталіся ў імператарскай світы, як запісацца ў яго войска.

Першы пад сваімі бел-чырвона-бел-чырвонымі сцягамі ў горад увайшоў беларускі кавалерыйскі полк князя Дамініка Радзівіла.



**Пачатак паходу Напалеона. Чэрвень 1812 г.**

У тыя дні ў сэрцах жыло шмат светлых надзей і спадзяванняў. Мала хто задумваўся, чаму адмовіўся ўдзельнічаць у вайне Тадэвуш Касцюшка, што ў той час жыў у Францыі.

## Першыя бітвы

Напалеон разлічваў паасобку разбіць расейскія арміі недалёка ад мяжы і прымусіць Расею падпісаць мір. Але царскія генералы вырашылі не ўступаць у вырашальную бітву, пакуль не аб'яднаюць свае войскі. Французы імкнуліся сарваць гэты план. Каля гарадоў Кобрына і Міра, паблізу вёсак Гудзевічы на Гарадзеншчыне, Салтанаўка на Магілёўшчыне і ў іншых мясцінах беларускай зямлі з першых дзён вайны ішлі крывавыя баі.

У ліпені вялікая бітва адбылася каля вёскі Клясціцы, што пад Полацкам. Сам Полацк французы занялі без цяжкасцей. Адсюль адкрываўся шлях на расейскую сталіцу Санкт-Пецярбург. Дарогу туды абараняў корпус царскага генерала Вітгенштэйна.

У Вітгенштэйна было 18 тысяч салдатаў і 108 гарматаў, а ў французскага маршала Удзіно – 25 тысяч конніцы з пяхотай і 114 гарматаў. Тры дні на беразе ракі Дрысы кіпела бітва. Расейцам удалося спыніць наступ напалеонаўскіх палкоў на Пецярбург. Пад Клясціцамі быў смяротна паранены таленавіты царскі генерал Якаў Кульнёў. Напалеон умеў высока цаніць мужнасць праціўніка. Даведаўшыся пра смерць генерала, французскі імператар паслаў у Парыж адмысловага ганца з лістом, дзе называў Кульнёва адным з лепшых афіцэраў расейскай кавалерыі.

Сёння імем генерала Кульнёва называецца адна з полацкіх вуліц.

Роўна праз месяц пасля Вільні Напалеон уступіў у Віцебск. На падыходах да горада, каля мястэчка Астроўна, расейскія войскі зноў сустрэліся з французамі. Бой быў такі цяжкі, што на дзесяці вёрстах ад Астроўна да Лучосы забітыя ці параненыя ляжалі на кожным метры дарогі.

## Дзень нараджэння імператара

У Віцебску Напалеон рыхтаваўся да свайго дня нараджэння. Ён быў у добрым гуморы. Нягледзячы на цяжкія страты, ягоныя войскі прайшлі ад Нёмана сотні вёрстаў і набылі яму пяць мільёнаў новых падданых.

У беларускіх гарадах вывешвалі партрэты французскага імператара. Газеты пісалі пра добраахвотнікаў, што запісваюцца ў Вялікую армію, і пра ахвяраванні на яе патрэбы. Княжна Радзівіл ахвяравала дзесяць валоў і дванаццаць бараноў, а нейкі небагаты шляхціц з-пад Наваградка – рэшата яек і некалькі фунтаў масла. Такіх прыкладаў было шмат.

На пачатку вайны зычліва сустракалі напалеонаўскіх жаўнераў і беларускія сяляне. Яны марылі атрымаць свабоду ад прыгону, а таму паказвалі французам дарогу, разам нападалі на маёнткі верных цару памешчыкаў.

У гэты час у напалеонаўскім войску служыла прыкладна 25 тысяч беларусаў.

Вядома, што ў свой першы віцебскі дзень Напалеон адшпіліў шпагу, кінуў яе на завалены вайсковымі картамі стол і абвясціў: "У гэтым горадзе я спынюся, злучу карпусы маёй арміі, дам ёй адпачынак і займуся ўладкаваннем гэтай краіны. Паход 1812 года – закончаны!" Хто ведае, што сталася б, каб французскі імператар сапраўды спыніўся? Аднак ён хутка перадумаў і тамсама, у Віцебску, вырашыў ісці на Маскву.

Хоць прамінула ўсяго паўтара месяца вайны, прыхільнікі Напалеона ў Беларусі адзначылі яго дзень нараджэння ўжо зусім не так радасна, як віталі пачатак паходу.

*(Працяг у наст. нумары).*

# Давайце спяваць па-беларуску

## ПАТРЭБА

Музыка Міколы Яцкова Словы Міколы Мельнікава




Ёсць патрэба адлётаў у вырай
У пары залатой у гаях,
Што прыходзіць, як стома, як вырак,
Мазалём пад крылом жураўля.

Ёсць патрэба ў сяброўскім застоллі,
Дзе цябе зразумеюць заўжды,
І віною не будуць ніколі
Маладыя ліхія гады.

**Прыпеў:**
А найпершая ўсё-ткі патрэба –
На Радзіму вяртацца здалёк,
Каб на аркушы чыстага неба
Прачытаць жураўліны радок.

Ёсць патрэба вярнуцца дадому,
Да пяшчоты і ласкі сям'і,
І тужыць па каханню былому,
Што здавалася колісь тваім.

Ёсць патрэба хадзіць на спатканні
І ніколі душой не старэць,
І лічыць захапленне каханнем...
Ды ці мала ўсялякіх патрэб?

**Прыпеў:**
А найпершая ўсё-ткі патрэба –
На Радзіму вяртацца здалёк,
Каб на аркушы чыстага неба
Прачытаць жураўліны радок.

# *Жывая кніга прыроды*

**Для педагогаў дашкольных устаноў. Укладальнік Ірына Марачкіна**

### *Зіма. Студзень.*

Студзень... Ён прыходзіць да нас вясёлым і чаканым навагоднім святам. Шмат радасці прыносіць яно дзецям: зялёную прыгажуню ёлку, падарункі.

Студзень – сярэдзіна зімы, самы халодны месяц на Беларусі.

Людзі кажуць: студзень скаваў зямлю сцюжай...

Студзень – душу студзіць.



### *ЗІМОЙ*

Здароў, марозны, звонкі вечар!
Здароў, скрыпучы мяккі снег!
Мяцель не вее, сціхнуў вецер,
І волен лёгкіх санак бег.
Як мары, белыя бярозы
Пад сінявой начной стаяць,
У небе зоркі ад марозу
Пахаладзеўшыя дрыжаць.

Вільготны месяц стуль на поле
Празрысты, светлы стоўп спусціў
І рызай срэбнаю раздолле
Снягоў сінеючых пакрыў.
Ўзрывайце ж іх санямі, коні!
Звіні, вясёлых бомбаў медзь!
Вакол лятуць бары і гоні,
У грудзях пачала кроў кіпець.

*Максім Багдановіч*

### *МЯЦЕЛІЦА*

Дзьмуханула завіруха,
Закружыла снегам-пухам,
Загула мяцеліца,
Аж вачам не верыцца.
Замяла канаўкі, сцежкі.
І лагчыны, і ўзмежкі.
Не відаць зусім нічога.
І гублялася дарога.
Свішча ветрык між галінак,
Ліпнуць вейкі ад сняжынак.
Гурбы снегу. Не прабрацца...
Вось дзе будзе дзецям праца.
- Гэй, за шуфлі і лапаты,
Снег адкідаем ля хаты!..
Закружыла завіруха,
Дзьмуханула снегам-пухам.

*Станіслаў Шушкевіч.*

### СТУДЗЕНЬ

Ходзіць
Студзень,
Студзіць
Студзень,
Цэлы месяц
Холад будзе,
Вецер зябкі
Шуміць,
А мароз
Аж трашчыць.
Ды не страшна
Янку,
Коціцца
На санках
З горкі снегавой
Крутой

Разам
З дружынаю дзятвой.
Студзіць
Студзень,
Стыне лес,
Зай пад ёлачку
Залез.
Стаў, нібы
Пад парасон,
У зацішку
Морыць сон.
А спрытнюгі
Курапаткі –
Пад сняжком
Збіралі
Хаткі

І сядзяць
Уночы,
Заплюшчыўшы
Вочы...
Спяць салодка
І не чуюць
Як вятры
Наўкол сярдуюць.
З маразамі
У гуле-гудзе
Ходзіць
Студзень,
Студзіць
Студзень.

*Авер'ян Дзеружынскі.*

### СНЯЖЫНАЧКІ

Сняжыначкі-пушыначкі,
Як матылькі ляцелі;
Як красачкі-пралесачкі,
Над хаткамі блішчэлі.
Бялеліся-мігцеліся
Ў багатыя калёры,
Драбнюткія-пякнюткія,
Як зоранькі, як зоры.
Насіліся-кружыліся
Над ціхімі палямі,
Даліначкі - сняжыначкі
Пакрылі дыванамі.

Над ёлкамі, над хвойкамі
Шапталі свае песні:
"Як смутна тут, пакутна тут,
Тут страшна, ах, тут цесна..."
"У хмараньках – пры матаньках,
У срэбным у замчышчы
Спявалі мы, скакалі мы
І ладзілі ігрышчы".
Сняжыначкі-пушыначкі
На Бога наракалі:
"Нас кволенькіх-вясёленькіх
На полі растапталі".

*Змітрок Бядуля.*

***

Елка ў ельніку жыла,
Елка ў ельніку расла.
Елку везлі нам на свята.
Мы чакалі ля акна,
А прывезлі елку ў хату –
Стала ёлачкай яна.
Ёлачка. Ёлачка
Са сцюдзёнай вуліцы!
Едкія іголачкі
Да галінак туляцца.
Мы галлё зялёнае
Апранем вясёлачкай.
Самае ўлюбёнае –
Гэта свята з ёлачкай.

*Сяржук Сокалаў-Воюш.*

## ДВА МАРАЗЫ

**Казка**

Гулялі на полі два маразы, два родныя браты: мароз Сіні-нос і мароз Чырвоны-нос.

Гуляюць-пагульваюць маразы, адзін аднаго пахвальваючы. А ноч ясная-ясная. Прасторна маразам на полі. А ціха, так ціха, нібы жывой душы не засталося на свеце. Перабеглі маразы з поля на лес. Бегаюць, палускваюць, з дрэва на дрэва пераскокваюць, зайчыкаў палохаюць. З лесу ў вёску заскочылі і давай на даху страляць.

- Эге, - кажа мароз Сіні-нос, - усе пахаваліся, баяцца на двор вылезці.

- Няхай толькі вылезе хто: задамо яму страху, - адказвае мароз Чырвоны-нос.

Пачало развідняцца. Паваліў з комінаў дым густы. Заскрыпелі калодзежы. Павыходзілі мужчыны з хат. Хто малаціць пайшоў, хто ў лес па дровы збіраецца.

Стой жа, брат, - сказаў мароз Чырвоны-нос. – Пабяжым жа мы на дарогу ў поле.

І пабеглі яны зноў у поле; стаяць, прытуліўшыся, падарожных чакаюць.

Заскрыпелі сані на дарозе. Зазваніў дзесь званочак пад дугою.

У санях селянін сядзіць, коніка паганяе. А ззаду за ім зухаўскі вазок плыве. Званочак пазвоньвае.

- Ну чакайце ж вы, - кажа мароз Сіні-нос. – Ты бяжы за мужыком, а я за панам паганяюся.

І пабеглі яны падарожных марозіць. Доўга бег мароз Сіні-нос, пакуль пана дагнаў. Нарэшце дагнаў, пад футра залез, цяпло выганяе адтуль. Пацiскаецца пан, ногі зябнуць; холад па целе пайшоў, панскі нос пасінеў.

А мароз Сіні-нос толькі пасмейваецца. Ледзь да смерці пана не замарозіў. А мароз Чырвоны-нос дагнаў селяніна і давай яго марозіць.

- Эге, мароз не жартуе, - кажы селянін. Злез ён з саней, бяжыць, нагамі тупае, рукамі аб плечы б'е. Прабег так з паўвярсты, аж горача стала яму. Сеў сабе на сані, едзе — і гора мала.

- Ну пачакай ты, брат: прайму я цябе, як ты дровы сячы будзеш.

Заехаў чалавек у лес. А мароз Чырвоны-нос выперадзіў яго, у лесе чакае. Выпраг коніка селянін, сякеру ўзяў ды як пачаў секчы – горача стала яму. Скінуў кажух. А мароз і ўзрадаваўся: залез у кажух і давай там белыя кросны ткаць.

Зрабіўся кажух белы, як снег. Насек дроў чалавек, да кажуха ідзе, а ён увесь абмёрз.

Эге, браток, дык ты тут!

Узяў пугаўё ды як стаў калаціць – ледзь жывы выскачыў мароз Чырвоны-нос ды драла ў лес.

Узлаваўся мароз Чырвоны-нос на селяніна, але ніякай рады даць яму не можа.

*Якуб Колас.*

Рэдактар Станіслаў Суднік

Заснавальнік: ТБМ імя Францішка Скарыны.
Пасведчанне аб рэгістрацыі: № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
Адрас рэдакцыі: 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
Адрас для паштовых адпраўленняў: 231300, г. Ліда-2, п/с 7.
E-mail: ns@lida1.lingvo.grodno.by

Рэдакцыйная калегія:
Людміла Дзіцэвіч, Алесь Гурыновіч, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзеных інфармацыі

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 17. 01. 2000 г.
Наклад 3200 асобнікаў. Замова № 3
Падпісны індэкс: 63865.
Кошт падпіскі: 1 мес.- 100 руб., 3 мес.- 300 руб.
Кошт у розніцу: 25 руб.